 


# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

№ 33 (912) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 19 ЖНІЎНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


*Гусі на Нарве.* *Фота Я. Цялушэцкага*




Найперш мы доўга ехалі лесам. Зараз жа за нараўскімі каталіцкімі могілкамі дарожны ўказальнік абяцаў нам 5 кіламетраў, а лес усё неяк не канчаўся. Лес сасновы, не надта высокі, на пясчанай глебе, на якой нават ядлоўцам не хапае корму.

Як жывуць людзі там — за лесам? Гэтая праблема заўсёды мяне хвалюе, колькі раз набліжаюся да нейкага паселішча, якога яшчэ я добра не ведаю. Бо як жа не цікава — куды не паедзеш, дзе не спынішся, за 5, за 20, за 100... кіламетраў — усюды сустрэнеш чалавечыя сялібы.

А ў Ванева завітаў я не зусім выпадкова. Двойчы ў размове з начальнікам Нараўскай гміны я чуў нараканні на адсталасць гэтай вёскі. Статыстычныя паказчыкі, на жаль, пацвярджалі яго словы.

Быў тады будні́шні дзень. Ванева стаяла ў цішыні. Яно аказалася невялікай вёскай — 30 гаспадароў. У рабочы час летняе сонца кліча людзей у поле. І я меў ужо туды накіравацца, але ў той момант з-за чарговага вулічнага павароту паявілася двое сялян. **Аляксандр Снарскі** і **Васіль Ярмоцік.** Іх выгляд і загарэлыя, парэзаныя маршчынамі твары прыводзілі на думку шматгадовы вопыт і цяжкія перажыванні. Мы прыселі на драўляных калодах, якіх цэлая горба ляжала на панадворку ў Аляксандра Снарскага.

— Абору будаваць надумаўся, — паясніў гаспадар. — Дзяржава хоча, каб мы свінней і кароў разводзілі, каб больш мяса і малака давалі. Гэтага ж пад голым небам не зробіш.

Гаварыў ён гэта без вядомага мне дэкларатыўнага энтузіязму. У яго голасе чуўся жаль і боль пакрыўджанага чалавека.

— Дык задумаў пабудаваць я вялікую абору, бо люблю жывёлу і здаўна займаўся яе гадоўляй. Узяў 70 тысяч пазычкі, заклаў фундамент і тады з павету прыйшло рашэнне: спыніць будову. Кажуць, што сусед паскардзіўся.

Гаспадар вядзе мяне на загуменне. Сапраўды, за старым, напалавіну разваленым хлявом, пад дзіравай саламянай страхой аглядаў я бетонны фундамент будучага (ці будучага?) прасторнага мураванага гаспадарчага будынка. Побач у суседзяў ніякіх будоўляў. Адно толькі чыстае поле і агароды. Адкуль тады гэтая забарона?

Снарскі бездапаможна сціскае плячыма і яшчэ далей папаўняе рэестр сваіх жаляў. Аказваецца, што ў мінулым годзе ў Ваневе праводзілі хутарызацыю.

— Мярнічы цэлае лета сядзеў у нашай вёсцы, — расказвае селянін. — І што атрымалася? У палосках меў я 14 гектараў і 40 сотых, а цяпер дастаў толькі 10 га.

— Можа намнога лепшай зямлі? — пытаю.

— А дзе там яна лепшая! У нас амаль зусім лепшай зямлі няма, адзін пясочак.

— Дык дзе прапалі 4 га вашага поля?

— Вось менавіта, — кажа гаспадар. — Я таксама пытаў пра гэта ў землямера, які ў нас рабіў калоніі. А ён мне кажа: „Пане Снарскі, навошта пану гэтая зямля? Ваша зямля ўжо на могільніку”. Так сказаў, чэснае слова.

Дзіўна і неверагодна, каб Снарскі дазволіў сябе так спакойна крыўдзіць! Ён жа яшчэ даваенны падпольшчык, у час акупацыі не баяўся супрацоўнічаць з партызанамі, а зараз жа пасля вайны, у небяспечны час, уступіў у партыю. Цяпер ён радны Нараўскай гміны.

— І што, — пытаю, — у адказ не прышпорылі вы яму?

— Я ўжо сапраўды стары і здароўя не маю, асабліва ад таго часу, калі мяне бык прыдушыў. Ды не для сябе я змагаюся за гэтую зямлю і абору — для дзяцей, для сына.

Сапраўды, на дзеці Снарскім пашанцавала. 5 сыноў і 4 дочкі. Дочкі павыходзілі ўжо замуж, два сыны адправіліся ў Беласток пакаштаваць гарадскога шчасця, а тры — яшчэ дома.



*Вася Снарскі рашыў застацца на гаспадарцы. Гэта ён сам размаляваў так бацькоўскую хату.*

— Вася ў мяне будзе гаспадаром, — гаворыць селянін, — ён ужо мае 19 гадоў і пасля вайсковай службы рашыў пераняць ад мяне бацькаўшчыну. Любіць ён працу на зямлі. Ужо цяпер амаль ва ўсім мяне выручае. Дык я галоўным чынам для яго.

Спадабалася мне гэтая турбота за зямлю, за гаспадарку, у гэтым жа напрамку ідзе сельскагаспадарчая палітыка краіны. Ужо цяпер у старых, цесных

Працяг на стар. 4

ДЫСКУСІЯ АБ КУЛЬТУРЫ

## АБ КУЛЬТУРЫ НАШАГА ЖЫЦЦЯ

З артыкула Мікалая Гайдука („Ніва”, 27/73, „Запрашаем да дыскусіі над культурай”) відаць, што рэдакцыя тыднёвіка звяртаецца да ўсіх чытачоў, каб пісалі аб тым, як павысіць узровень культурнага жыцця на беластоцкай зямлі. Такія прапановы дапамогуць скласці план развіцця розных галін культуры па 1980 год.

Да гэтага часу меркавалася, што культурная праца павінна абапірацца на дзейнасці драматычных і харавых калектываў, бібліятэках, школах, святліцах, клубах і г.д. Усе гэтыя ўстановы адыгрывалі, адыгрываюць і будуць адыгрываць вялікую ролю (пашырэнне асветы, чытанне кніжак, слуханне радыё, глядзенне тэлевізіі) павінны і ў далейшым працаваць як найлепш.

Слушна М. Гайдук падкрэслівае, што культурай называецца і тое, калі ткачыха вытча прыгожы дыван і накрые ім свой ложак, павесіць на сцяне прыгожую макатку ці аздобіць народнай выцінанкай свой шлюбны здымак. Усе гэтыя рэчы аздабляюць наш быт і сведчаць аб уладкаваным, прыгожым і культурным жыцці.

Культурай называем і тое, калі селянін уласнай працай і сваімі агратэхнічнымі ведамі дабʼецца высокіх ураджаяў на сваёй гаспадарцы, жыве ашчадна, уласным коштам выбудуе сабе новы прыгожы мураваны дом і вядзе яго, як кажуць, культурна.

Вялікае значэнне мае і наша выхаванне. І не толькі на паказ, перад чужымі людзьмі, але і сярод сваіх суседзяў, блізкіх і родных у хаце. А ў гэтай справе нам шмат яшчэ трэба папрацаваць над сабою, каб пазбыцца дрэнных звычак. Ці то дома, ці ў дарозе на Беласточчыне часта можна пачуць вульгарнае выражэнне „...тваю маць”. Гэтыя і ім падобныя словы мы павінны выкінуць зусім з нашай мовы, бо яны сведчаць аб тым, што часта мы бываем, як кажуць, „на бакер” з культурай. Тым больш, што гэта перадаецца і малодшаму пакаленню. Усё добрае, прыгожае і культурнае ў нашай мове мы павінны берагчы, а ўсяго брыдкага і бескультурнага — пазбягаць, каб намі не пагарджалі іншыя людзі. Чалавек павінен

(Працяг на стар. 3)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве”

**Гаворыць намеснік старшыні ПРН у Дуброве Беластоцкай ● Нашы арлы (рэпартаж са школы „арлянят“ у Дэмбліне) ● З песняй у Сопат ● Што плёскаецца ў Валілаўскіх ставах? ● Фотарэпартаж з Тыневіч Малых ● Вынікі нашай працы ў першым паўгоддзі ● Анатолій Багатыроў ● Весткі з Грыбаўцаў, Агароднікаў, Тапаркоў, Вострава Новага, Белавежы, Грыгароўцаў і Гайнаўкі ● Песня з рэпертуару М. Магамаева „Serce na śniegu“.**

## ПОЛЬСКАЯ БЕЛАРУСІСТЫКА ДА VII МІЖНАРОДНАГА КАНГРЭСА СЛАВІСТАЎ

Уклад польскіх вучоных у даследаванне славянскіх моваў, літаратур, этнаграфіі, міжславянскіх узаемасувязяў, а таксама сувязяў славян з іншымі народамі высока цэніцца ва ўсім свеце. Вышэйшай мерай прызнання заслуг, унесеных польскімі славістамі ў міжнародную навуку, зʼяўляецца факт, што чарговы VII Міжнародны кангрэс славістаў адбудзецца ў Варшаве, ад 21 па 27 жніўня 1973 года. Для нашага грамадства гэта тым больш прыемна, бо, як вядома, гэты год — Год польскай навукі. Прадбачваюцца шматлікія навуковыя пасяджэнні, сімпозіумы і сустрэчы, у часе якіх будуць заслуханы дзесяткі дакладаў і паведамленняў, праведзены дыскусіі. Замежныя вучоныя пазнаёмяцца з даследчай працай сваіх польскіх калегаў, наведаюць шэраг атракцыйных мясцін нашай краіны, правядуць падарожжа па шляху Каперніка. Усё гэта будзе спрыяць далейшаму ўмацаванню супрацоўніцтва паміж славістамі ўсяго свету.

Прыемна адзначыць, што ў падрыхтоўцы і правядзенні VII Міжнароднага кангрэса славістаў прымаюць актыўны ўдзел польскія вучоныя, якія займаюцца беларусазнаўствам. Выдатны польскі мовазнаўца праф. др А. Абрэмбская-Яблонская ўваходзіць ў склад Польскага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні кангрэса. Праф. др А. Абрэмбская-Яблонская зʼяўляецца рэдактарам навуковага часопіса „Slavia Orientalis” — аднаго з органаў Камітэта славяназнаўства Польскай акадэміі навук. У ім у асноўным змяшчаюцца працы, прысвечаныя ўсходнеславянскай праблематыцы, у тым ліку і беларусазнаўству. Другі нумар „Slavia Orientalis” за гэты год прысвечан VII Міжнароднаму кангрэсу славістаў.

Сярод васемнаццаці публікацый, змешчаных у гэтым юбілейным нумары „Slavia Orientalis”, аж чатыры прысвечаны беларускай праблематыцы.

У раздзеле літаратуразнаўства мгр Уладзімір Стохель у артыкуле „Янка

Працяг на стар. 4

 

© PDF: Kamunikat.org 2023

◊ Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Вестка ◊



## СВЕТ

### НОВЫЯ КАНВЕНЦЫІ МАП

Нядаўна ў Жанеўскім Палацы закончылася работа 58-ай сесіі Генеральнай канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП). У ёй прынялі ўдзел дэлегацыі амаль 120 краін свету.

Сесія прыняла новую канвенцыю, дапоўненую рэкамендацыяй, дзе ўстаноўліваецца ў якасці нормы для прыёмаў на звычайныя работы мінімальны ўзрост 15 гадоў, а на цяжкія, небяспечныя і шкодныя работы — 18 гадоў. Гэта — крок наперад у параўнанні з некаторымі раней прынятымі МАП канвенцыямі. Былі прыняты канвенцыя і рэкамендацыя па пытаннях сацыяльных вынікаў новых метадаў апрацоўкі грузаў у портах. Гэта рашэнне можа адыграць пэўную станоўчую ролю ў якасці прававой асновы ў ходзе барацьбы партовых рабочых у капіталістычных краінах супраць звальненняў за паляпшэнне ўмоў працы і жыцця.

### ЯЎРЭЙСКІЯ ПАСЕЛІШЧЫ

Тэль-Авіў спешна стварае на акупіраваных тэрыторыях яўрэйскія паселішчы. Так, на захопленых у Сірыі Галанскіх вышынях ужо існуе 15 паселішчаў, і ў бліжэйшым будучым да іх павінна прыбавіцца яшчэ сем. Афіцыйныя ізраільскія прадстаўнікі гэтымі днямі аб'явілі, што на працягу наступных 4 гадоў плануецца стварыць яшчэ 40 новых паселішчаў і большасць — на зямлі, адабранай ў арабаў. Улады прадугледжваюць, што ў іх размесцяцца 50 тысяч чалавек.

### АБВІНАВАЧАННІ СУПРАЦЬ С. АГНЮ

Балтыморскае бюро міністэрства юстыцый ЗША пачало афіцыйнае судовае расследванне супраць віцэ-прэзідэнта ЗША С. Агню.

У ходзе гэтага расследвання будуць разгледжаны абвінавачанні супраць С. Агню ва ўхіленні ад аплаты падаткаў у бытнасць яго губернатарам штата Мэрыленд у 1967-68 гадах.

Паводле даных амерыканскага друку, у ходзе расследвання будзе разгледжана таксама пытанне аб прадстаўленні шэрагу выгадных урадавых кантрактаў прыватным кампаніям штата Мэрыленд у перыяд 1967-68 гадоў і пачынаючы са студзеня 1969 года, калі С. Агню заняў пасаду віцэ-прэзідэнта.

Прадстаўнік Белага дома паведаміў, што Белы дом цяпер не мае намеру каменціраваць пытанне аб магчымых парушэннях закону віцэ-прэзідэнта і адмаўляцца адказваць „на любыя пытанні, як бы хітра і ўмела яны не былі складзены".

### АЎТАМАБІЛЬНЫЯ КАТАСТРОФЫ

Згодна з апублікаванымі данымі ААН, у выніку аўтамабільных катастроф і дарожных здарэнняў ва ўсім свеце ў 1971 годзе загінула каля 250 тысяч чалавек і каля 7,5 мільёна паранена. 45 працэнтаў ахвяр дарожных здарэнняў прыпадае на Еўропу, 28 працэнтаў — на Паўночную Амерыку і 27 працэнтаў — на астатнія краіны свету.

Эканамічныя страты ад дарожных здарэнняў у ЗША у 1970 годзе склалі прыкладна 13 мільярдаў 600 мільёнаў долараў.

### КРЭДЫТ

Аргенціна прадставіла Рэспубліцы Кубе крэдыт у 200 мільёнаў долараў для набыцця аргенцінскіх грузавікоў, трактараў і іншай сельскагаспадарчай тэхнікі. (ак)



## БССР

### ІДЗЕ ХЛЕБ

Сёлеташняе жніво на Беларусі праходзіць у складаных умовах. Перашкаджае капрызнае надвор'е. Але вось сакратар партыйнага камітэта калгаса „Перамога" Жыткавіцкага раёна — В. Страх інфармуе, што першыя дні жніва ў іх гаспадарцы паказалі, што пры добрай арганізацыі працы ўборку можна весці ў любую пагоду. Камбайнёры гэтага калгаса працуюць безупынна. Намалоты ў іх высокія. Па сорак і больш цэнтнераў зерня з гектара.

### ДАЖЫНКІ

Хлебаробы калгаса „Усход" Камянецкага раёна, Брэсцкай вобласці ўжо 8 жніўня справілі дажынкі. Сабрана 1.140 гектараў жыта, пшаніцы, ячменю і аўса. Зямля шчодра аддзякавала хлебаробам за іх клопаты. З кожнага гектара намалочана ў калгасе па 30 цэнтнераў збожжа.

### РАБОЧЫЯ — ДЛЯ ВЁСКІ

З дапамогай калгаснікам у цяжкі час уборкі хлеба спяшаюць рабочыя многіх прадпрыемстваў Беларусі. Напрыклад, калектыў Мінскага аўтамабільнага завода за доўга яшчэ да сяўбы і жніва адправіў сёлета працаўнікам вёскі ўсю неабходную па плану колькасць аўтамабіляў, прычэпаў і запасных частак. Датэрмінова выканаў шэраг іншых заказаў. Для механізацыі працаёмкіх працэсаў у жывёлагадоўлі завод наладзіў выраб шматлікіх прылад аблягчаючых працу.

На перыяд уборкі збожжавых і нарыхтоўкі кармоў прадпрыемствы Ленінскага раёна горада Магілёва выслалі для калгасаў і саўгасаў вобласці 250 аўтамашын, 30 трактараў з прычэпамі і 100 чалавек. На працягу года ў вёсцы працоўныя раёна правядуць 14 суботнікаў і адпрацуюць 180 тысяч чалавекадзён.

### КАЛГАСНЫЯ ЗАВОДЫ

Ужо тры гады працуе ў калгасе „Ленінскі шлях" Слуцкага раёна сокавы завод. Тут перапрацоўваюць агародніну, садавіну, ягады, кансервуюць агуркі і памідоры. У мінулым годзе гэты завод даў калгасу больш за 100 тысяч рублёў чыстага даходу. Сёлета рабочы калектыў калгаснага завода спадзяецца атрымаць 150 тыс. рублёў прыбытку.

Падобны завод працуе ў калгасе імя Кірава.

### ЗАКАНЧВАЮЦЬ ПЯЦІГОДКУ

Спраўна ідзе праца на швейнай фабрыцы імя Фелікса Дзяржынскага ў Бабруйску. На гэтым прадпрыемстве ёсць нямала рабочых, якія набліжаюцца ўжо да завяршэння сваіх асабістых гадавых і пяцігадовых планаў. У іх ліку — Марыя Дайнека, Еўдакія Жолаб, Раіса Сузановіч, Валянціна Ваўчок і іншыя.

Пяцігодку за чатыры гады і тры месяцы рашыла завяршыць лепшая прадзільшчыца Баранавіцкага баваўнянага камбіната — В. Булава, якая была дэлегатам XXIV з'езда КПСС. Пра яе метады працы расказвае спецыяльны, багата ілюстраваны плакат, які выпусціў партыйны камітэт прадпрыемства.

### САЛІГОРСКУ — 15

Салігорск — адзін з беларускіх гарадоў, якія ўзніклі пасля вайны, урачыста адзначыў сваё 15-годдзе. З гэтай нагоды адбыліся шматлікія мерапрыемствы культурнага характару. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ ДРУЖБЫ

У Польшчы ад 9 па 11 жніўня г.г. прабывала з візітам дружбы ўрадавая дэлегацыя Венгерскай Народнай Рэспублікі на чале са старшынёй Савета Міністраў ВНР Ёнэ Фокам. Венгерскія сябры правялі размовы і падпісалі пагадненні з Урадам нашай краіны адносна далейшага развіцця і пашырэння эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж абедзвюма нашымі дзяржавамі.

### БОЛЬШ ТРАКТАРАЎ

Ва ўсёй краіне жніво набліжаецца к канцу. Сяляне сцвярджаюць, што збожжа ў бягучым годзе ўмалотнае, ураджай лепшы, чым у папярэднія гады. Сёлета жанцам спрыяла пагода і менш, як раней, было недахопаў у працы сельскіх механізатараў. З думкай пра аблягчэнне сельскагаспадарчых прац прыкладалі свае намаганні рабочыя трактарнага завода „Урсус". Ад пачатку года з канвеера завода сышло звыш 30 тысяч трактараў розных тыпаў, у тым ліку 1000 машын звыш плана. Нашым сялянам прыбудзе механічных памочнікаў.

### НАШАЕ СУДНАБУДАЎНІЦТВА

У мінулым годзе польскія верфі збудавалі марскія судны агульным водазмяшчэннем 700 тысяч ДВТ. Наша краіна займае ў суднабудаўніцтве 12 месца на свеце. Спецыялізуемся ў пабудове марскіх рыбацкіх суднаў і займаем у гэтай галіне другое месца ў свеце, пасля Японіі і ГДР. У пабудове дробнагрузавых і ўніверсальных суднаў, г. зн. найбольш працаёмкіх у суднабудаўнічай прамысловасці. Польшча займае пятае месца ў свеце. Нядаўна нашыя верфі пачалі будову „55-тысячнікаў". У 1975 г. польскія верфі збудуюць звыш 100 марскіх суднаў агульным водазмяшчэннем 1 мільён ДТВ.

### БОЛЬШ НА РЫНАК

Паспяхова праходзіць выкананне дадатковых вытворчых абавязацельстваў, якія ўзялі на сябе калектывы прамысловых прадпрыемстваў па закліку Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума Урада. У „банк 30 мільярдаў" уплываюць усё новыя і новыя выкананыя звыш плана матэрыяльныя каштоўнасці. Прадпрыемствы машыннай прамысловасці, напрыклад перавыканалі свае абавязацельствы першага паўгоддзя. У III квартале прадбачваецца выпуск дадатковых вырабаў на звыш 100 мільёнаў злотых болей, чым прадбачана ў прынятых абавязацельствах. У другім паўгоддзі г.г. заводы і фабрыкі гэтай галіны прамысловасці даставяць на рынак між іншым 550 тысяч радыёпрыёмнікаў, 340 тысяч тэлевізараў, 170 тысяч магнетафонаў, 260 тысяч халадзільнікаў і 230 тысяч пылясосаў.

### УПЕРШЫНЮ

Працаўнікам нашай паліграфіі ўпершыню ўдалося надрукаваць поўны камплект неабходных школьных падручнікаў на цэлы месяц перад тэрмінам. У сувязі з гэтым не павінна ўжо быць нараканняў у школах, і ўрокі з першага дня заняткаў пойдуць нармальным рытмам, калі... не „падвядзе" кніжны гандаль і самыя школы, у якіх, як вядома, ёсць спецыяльныя ўпаўнаважаныя настаўнікі да забеспячэння вучняў у кнігі. (мг)



## ВАЯВОДСТВА

### ДА ЦЭНТРАЛЬНЫХ ДАЖЫНАК

11 жніўня ва ўрачыстай атмасферы быў перададзены ў карыстанне галоўны аб'ект, дзе будуць адбывацца цэнтральныя дажынкі, — стадыён спартклуба „Гвардыя". У рэкордным тэмпе будаўнікі не толькі пашырылі стадыён амаль у два разы, але пабудавалі побач цэлы шэраг патрэбных тут будынкаў: кавярню, раздзявальню, умывальню, кабіны для прэсы, радыё і тэлебачання. На ўрачыстасці з будаўнікамі сустрэліся I сакратар ВК ПАРП. З. Куроўскі, II сакратар ВК ПАРП Ул. Юшкевіч, сакратары Я. Златажынскі і М. Недзведзь, старшыня Прэзідыума ВРН З. Спрыха і намеснік старшыні Прэзідыум ВРН Р. Лазаровіч. 47 будаўнікоў атрымалі адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны", а 60 чалавек — ганаровыя дыпломы і альбомы.

Напярэдадні ўрачыстасці перадачы стадыёна група спецыялістаў праверыла якасць абсталявання для правядзення радыё- і тэлетрансляцыі з дажынак на цэнтральную антэну. Спроба прайшла паспяхова.

### А. ВЕРБЛЯН НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

7 жніўня з візітам на Беласточчыне пабываў член Сакратарыяту ЦК ПАРП віцэ-маршалак Сейма тав. А. Верблян. Госць цікавіўся падрыхтоўкай да цэнтральных дажынак, наведаў новапабудаваныя аб'екты, а затым пабываў у Сувальскім, Аўгустоўскім і Элцкім паветах, дзе цікавіўся ходам жніва, наведаў некалькі гмін і дзяржаўных гаспадарак, цікавіўся развіццём жывёлагадоўлі. Зацікавіла госця таксама справа развіцця турыстычнай базы на Сувальска-Аўгустоўскім паазер'і.

### Ю. ТЭЙХМА НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

8 жніўня прабываў на Беласточчыне член Палітбюро ЦК ПАРП, віцэ-прэм'ер Ю. Тэйхма. Ю. Тэйхма цікавіўся ходам жніва, адпачынкам дзяцей і моладзі ў нашым ваяводстве, наведаў таксама пляц будовы Элцкага мясакамбіната, раслінную станцыю ў Пісаніцы, а таксама ўдзельнічаў у сустрэчы ў ПК ПАРП у Элку.

### ПАСЯДЖЭННЕ ДАЖЫНКАВАГА КАМІТЭТА

8 жніўня ў Беластоку адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта цэнтральных дажынак. У пасяджэнні, якое вёў віцэ-прэзас ЦЗКР Ю. Палюх, удзельнічаў намеснік кіраўніка аддзела прапаганды, прэсы і выдавецтваў ЦК ПАРП А. Владарчык. Камітэт добра ацаніў ход падрыхтоўкі да дажынак.

### ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

6 і 7 жніўня на Беласточчыне, у сувязі з цэнтральнымі дажынкамі, арганізавана была прэс-канферэнцыя на тэму дасягненняў сельскай гаспадаркі і прамысловасці перапрацоўкі сельскагаспадарчай сыравіны ў нашым ваяводстве. Журналісты сустрэліся з уладамі Беласточчыны, наведалі склад-халадзільнік, а'бекты сельскагаспадарчай выстаўкі, камбінат „Візна", станцыю расплоду жывёлы ў Пёнтніцы каля Ломжы і шэраг іншых аб'ектаў.

### СТУДЭНЦКІЯ ПРАКТЫКІ

У Старасельцах, на прадпрыемстве чыгуначных стальных канструкцый працавала група балгарскіх студэнтаў з Софіі. На заканчэнне рабочай практыкі студэнты выехалі на экскурсію па Польшчы. У гэты ж час група студэнтаў Беластоцкай медыцынскай акадэміі пабывала ў Балгарыі. (яч)




**Niedziela 19.VIII.**

7.15 Program dnia. 7.20 TV Technikum Rolnicze: Zbiór roślin pastewnych i ich zakiszanie. 8.00 „Przypominamy, radzimy". 8.20 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.55 „Długie deszczowe lato" — film dok ang. („Świat, który nie może zaginąć". 9.20 „Wielki nawigator" — film dok. („Czas i ludzie"). 10.30 „Muzy bez etatu". 11.05 Niedzielny koncert promenadowy z Pragi. 11.20 Dziennik. 12.20 „Spotkanie w szczecińskiej wsi". 12.50 Teatrzyk dla przedszkolaków: A. Chodorowska — „Pani Wrona". 13.30 „Salut dla pań" („Pokochać wiatr"). 14.00 Losowanie Totolotka. 14.15 „Klub Sześciu Kontynentów". 15.00 Sprawozdanie sportowe. 16.50 „Skrzydła" — film TVP. 17.30 „Przyjąć czy odrzucić". 18.25 „Wieczorek zapoznawczy" („Wakacje pana Polaka"). 19.05 „Kryteria". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Cerwone wino" — film fab. czechosł. odc. II. 21.25 „To już 50 lat" — program z okazji 50-lecia Przem. Okrętowego. 22.25 Magazyn sportowy. Kronika Uniwersjady w Moskwie.

**Poniedziałek — 20.VIII**

15.25 Program dnia. 15.20 Dziennik. 15.30 Sprawozdanie z Uniwersjady w Moskwie. 18.00 TV Kurier Kielecki. 18.15 Oferty. 18.35 TV Kurier Warszawski. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: Eurypides — „Elektra". 21.25 „Dyro" — rep. filmowy. 21.55 Dziennik. 22.10 Kronika Uniwersjady w Moskwie.

**Wtorek — 21.VIII**

10.00 „Czerwone wino", film fab. czechosł. (kolor) — cz. II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Muzyczne wizerunki miasta — Tarnów. 17.10 „Koncert jubileuszowy" („Szansa"). 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Angelika i sułtan" — film fab. francuski. 21.50 „Ex libris". 22.20 Dziennik. 22.35 Kronika Uniwersjady w Moskwie.

**Środa — 22.VIII**

10.00 „Angelika i sułtan" — film fab. francuski. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Informacje — Towary — Propozycje. 17.00 Magazyn Medyczny — Konsylium — cz. I. 17.30 Sylwetki X Muzy — Tadeusz Pluciński. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.20 Magazyn Medyczny Konsylium — cz. II. 18.35 Film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 XIII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień Płytowy. 22.25 Dziennik. 22.40 Kronika Uniwersjady w Moskwie.

**Czwartek — 23.VIII**

10.00 „Skórzana kurtka" — film fab. rumuński. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Dmuchane i smykane" — („Chata pełna muzyki"). 17.15 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 My i środowisko. 18.00 Telewizja Młodych. 18.40 Poligon. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 XIII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień Płytowy. 21.05 PKF. 22.25 Dziennik. 22.40 Kronika Uniwersjady w Moskwie.

**Piątek — 24.VIII**

10.00 „Maki Isyk Kulia" — film fab. radziecki. 16.05 Program dnia. 16.10 Program I proponuje. 16.30 Dziennik. 16.40 Nie tylko dla pań. 17.10 Wykopaliska, odkrycia, sensacje. 17.40 TV Kurier Warszawski. 18.00 „Teleferie". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Program rozrywkowy. 20.30 Panorama. 21.10 Teatr TV: Andrzej Braun — „Próżnia". 23.00 Dziennik .23.15 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy — Kronika Uniwersjady w Moskwie.

**Sobota — 25.VIII**

10.00 Program dnia. 10.05 Film fabularny. 11.00 „Bursztynowa komnata" — rep. filmowy. 11.45 Dla dzieci: „Deszczowy dzień". 13.00 „Oryginały i transkrypcje". 13.40 Film fab. 15.00 „Miasteczko cyrkowe" — film fab. USA. 15.45 Dziennik. 16.00 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy — Inauguracja I Ligi Piłkarskiej. 18.00 Spotkania z przyrodą. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 XIII Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie — Dzień Polski. 22.35 Dziennik. 22.50 Wiadomości sportowe oraz sprawozdanie z zakończenia Uniwersjady w Moskwie. 23.20 „Letnia przygoda" fab. film czechosł.




**Piątek, 17 sierpnia**

8.15 Film seryjny. 9.30 Szkoła szachowa. 10.15 Śpiewa A. Iwanow. 13.10 Program dnia. 15.30 Uniwersjada. 17.45 Film seryjny. 19.00 Czas. 19.50 Koncert życzeń. 20.15 Uniwersjada. 21.30 Panorama nowin.

**Sobota. 18 sierpnia**

7.00 Program dnia. 8.15 Film fab. 9.15 Koncert artystów Ukrainy. 10.30 Film dokument. 12.00 Przegląd międzynarodowy. 12.15 Filmy animowane. 12.40 W świecie zwierząt. 14.00 Koncert. 15.30 Uniwersjada. 17.45 Film seryjny. 19.00 Czas. 20.25 Uniwersjada.

**Niedziela, 19 sierpnia**

7.00 Program dnia. 7.30 Filmy animowane. 9.45 Koncert. 10.15 Film fab. 11.45 Stadion TV. 14.00 Klub filmowy 15.00 Uniwersjada. 16.20 Film seryjny. 17.30 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów) — „Ararat" (Jerywań). 19.15 Czas. 20.15 Uniwersjada.







© PDF: Kamunikat.org 2023



### АД НАРВЫ ДА ШПРЭВЫ

Міхал Андрушкевіч — наш зямляк, нарадзіўся і вырас у Мацейкавай Гары, маленькай вёсачцы, што над Нарвай у Беластоцкім павеце. Яго кніжка успамінаў „Z notatnikiem w plecaku" і пачынаецца трывожнай карціцай родных мясцін у 1944 годзе, дзе аўтар сустрэў вызваленне.

Гэта частка кнігі асабліва важная. Не шмат у нас публікацый, якія перадавалі б атмасферу тых дзён у гэтым кутку Беласточчыны. А Андрушкевіч да таго перадаў яе таленавіта. Патрапіў нас з ходу ўцягнуць у курс падзей. Мы разам з жыхарамі глухой Мацейкавай Гары сядзім на лаўках пад ліпамі і слухаем гаворкі набліжаючагася фронту. І хочам паверыць у сілу легенды, якая гарантуе гэтай вёсцы бяспеку, бо калі засноўвалі Мацейкаву Гару, навокал вёскі выаралі баразну белымі валамі. Але потым, калі над намі пачынаюць шыпець снарады, кідаемся ў гарачцы ратаваць пажыткі і хаваемся па ямах. Урэшце з палёгкай вітаем чырвонаармейцаў і, змучаныя, засынаем у стадоле, поўнай сена.

А праз некалькі дзён Андрушкевіч вязе нас у Беласток да сваёй бабулі і сваякоў. Едзем па свежых слядах нядаўніх баёў. Побач салдацкіх магіл, па спаленай Новай Волі, па разбураным Міхалове. І 27 ліпеня чадзеем ад гару вызваленага ў гэты дзень Беластока.

Неўзабаве ў Дайлідах савецкае войска арганізуе польскую рэдакцыю. І здзяйсняюцца мары Андрушкевіча. Ён становіцца газетчыкам. З „Вольнай Польшчай" (так называлася заснаваная ў Дайлідах гэта франтавая газета) Андрушкевіч прабыў у Беластоку да канца кастрычніка 1944 г. З яго справаздачы гэтага перыяду шмат можам узбагаціць нашы веды пра першыя крокі народнай улады на Беласточчыне, пра клімат, у якім радзілася новае жыццё".

Потым рэдакцыя, а з ёю і аўтар успамінаў, рушыла на захад. Пасля зімовага наступлення Андрушкевіч выступае ўжо ў якасці ваеннага карэспандэнта Польскага прэсавага агенцтва „Польпрэс". У гэтым чыне застаўся ён да канца вайны, правандраваў палавіну Польшчы і значную частку Нямеччыны і быў адным з нямногіх сярод польскіх ваенных карэспандэнтаў сведкам узяцця Берліна і капітуляцыі гітлераўскай Германіі.

Цікавы, хвалюючы шлях: з памятнымі сустрэчамі, поўны нечаканасцей, багаты ў назіранні. Праўда, рэжа ў ім празмернае „хвастанне" любоўнымі прыгодамі, але прабачым аўтару гэту слабасць: ён насіў салдацкую шынель і, відаць, захаваў вядомую рысу старых салдат — крыху перабольшыць. Але ад гэтага шлях, пачаты аўтарам над Нарвай і закончаны над Шпрэвай, не надта скрывіўся.

Для цікаўных: М. Андрушкевіч цяпер з'яўляецца публіцыстам цэнтральнай трыбуны Войска польскага „Жолнежа Вольносці".

**Г. Валкавыцкі**

## ПЁТР АНАПЮК



Адышоў ад нас чулы настаўнік, сардэчны прыяцель моладзі, скромны і добрага сэрца чалавек. 20 ліпеня 1973 года на 37 годзе жыцця памёр магістр беларускай філалогіі Пётр Анапюк — настаўнік беларускай мовы Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім.

Нарадзіўся Пётр Анапюк 24 чэрвеня 1937 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Галады Бельскага павету. Пасля заканчэння пачатковай школы ў 1952 годзе паступіў у Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Сваёй сціпласцю і працавітасцю здабыў тут сардэчных прыяцеляў сярод калегаў і пашану ў настаўнікаў. Усім сэрцам палюбіў свой ліцэй і пасля паспяхова здадзеным экзаменаў на атэстат сталасці ў 1956 годзе паступіў на аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, каб ужо з дыпломам магістра ў 1961 годзе вярнуцца ў яго муры і ўсяго сябе прысвяціць працы над адукацыяй і выхаваннем новых пакаленняў ліцэістаў. На працягу многіх год апекаваўся ліцэйскай бібліятэкай з яе звыш 10-тысячным кнігазборам, прывіваючы ў вучняў зацікаўленне да кнігі і ўменне самастойна паглыбляць і пашыраць свае веды з гэтай скарбніцы. Вучыў шанаваць і любіць родную беларускую мову, папулярызаваў творчасць беларускіх пісьменнікаў.

У яго асобе адышоў з павятовага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Бельску ахвярны актывіст.

Паніклыя ў жалобе і смутку 22 ліпеня 1973 года правялі ў апошні шлях свайго дарагога калегу, любімага настаўніка і шчырага прыяцеля педагогі, працаўнікі, вучні і абсальвенты Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім.

Памяць аб ім застанецца назаўсёды ў нашых сэрцах.

## Канікулы на Гайнаўшчыне

Гайнаўская зямля асабліва ў гэтым годзе багата рознымі формамі летняга адпачынку і апекі над моладдзю і дзецьмі. На тэрыторыі павету зарэгістравана 15 пляцовак адпачынку моладзі. Гэта гарцэрскія лагеры і паўкалоніі, спартыўныя лагеры, „шкалянёвыя" (напрыклад, ПЦК у Іванках). Апрача таго, адкрыта 40 вясковых дзяцінцаў. Іх арганізатарамі з'яўляюцца павятовае праўленне сельгасгурткоў, ТПД, аддзел асветы і гміны. Трэба падкрэсліць, што найбольш, бо аж 25 дзяцінцаў, арганізуе павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў. З другога боку, трэба адзначыць, што сельгасгурткі маюць найвялікшыя цяжкасці ў арганізацыі такога тыпу апекі над дзецьмі на вёсцы. Справа ў тым, што стаўкі на харчаванне і на аплочванне тэхнічнага персаналу тут меншыя, чымсьці, напрыклад, у ТПД. Гэта ставарае некаторыя цяжкасці з кадрамі, незадаволены і бацькі, якія ўказваюць на іншых арганізатараў, дзе гэтыя справы выглядаюць зусім інакш.



*Абед на зялёным кайры Белавежскай пушчы смакаваў адпачываючым у нас піянерам.*



*Дзеці з пачатковай школы ў Руднай к/Парчэва на экскурсіі ў Белавежы.*

Іншая форма правядзення летніх канікул для старэйшых школьнікаў — гэта добраахвотныя гуфцы працы (ОГП). На тэрыторыі Гайнаўскага павету 9 лясных гуфцаў працы. Пяць працавала ў Белавежскай пушчы, іншыя — ў іншых лясах. Гаспадары нашых лясоў задаволены працай моладзі. Хопіць сказаць, што дзяўчаты Медыцынскага ліцэя ў Беластоку, якія працавалі ў Грудках каля Белавежы, за два тыдні, адлічыўшы заплату за харчаванне, зарабілі на чыста па 1004 зл.

Улады Гайнаўскага павету, як маглі, стараліся запэўніць моладзі і дзецям ўсё, што было патрэбна паасобным пляцоўкам. Па ініцыятыве Павятовага камітэта ПАРП адказныя работнікі партыйнай інстанцыі і павятовай рады наведалі ўсе сталыя пляцоўкі, што на тэрыторыі павету, на месцы знаёмячыся з праблемамі і цяжкасцямі выхаваўцаў і дзяцей.

**Тэкст і фота А. Карпюка**

Пачатак на стар. 1

## Аб культуры нашага жыцця

быць не толькі сыты, чысты, пабрыты, апрануты ў прыгожую вопратку, але таксама культурны ў абыходжанні і сардэчны для старэйшых людзей, якія сваёй цяжкай працай пабудавалі сённяшняе лепшае жыццё.

Хочам, каб не толькі гарады, але і сёлы былі прыгожыя. Партыя і урад Народнай Польшчы дапамагаюць сялянам. І сяляне будуюць новыя мураваныя дамы, клуні, хлявы, ставяць прыгожыя агароджы, насцілаюць цвёрдыя паверхні вуліц, праводзяць электрычнае асвятленне. Гэта доказ, што нашыя сяляне накіроўваюць усе свае сілы для паляпшэння жыцця...

Каб пазбыцца цяжкіх дзён на старасць, маладыя гаспадары ў сяле павінны ўплочваць штомесячную ці штогадовую складчыну на эмерытальнае забеспячэнне. Варта, каб наш Сейм прыняў у гэтай справе адпаведную пастанову. Неабходна, каб і наш селянін нароўні з рабочым ці працаўніком меў забяспечаную старасць. Калі нашым гаспадарам у вёсцы хапае грошай на застрахаванне будынкаў, дабытку ці збожжа, дык тым болей павінна хапіць іх на забеспячэнне ўласнага жыцця ў старыя гады. Можа тады менш будзе выпіта алкагольных напіткаў, затое жыццё ў старасці будзе пэўнейшае і лепшае.

**Нестар Перавой**

НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## На Сакольшчыне

Спартыўныя і маладзёжныя арганізацыі ў Сакольскім павеце многа месца ў сваёй працы адводзяць справам сельскага спорту. Вясковая моладзь, асабліва хлопцы, ахвотна займаюцца спортам. Займаючыся спортам, яны развіваюць моц і спрыўнасць свайго цела, умацоўваюць здароўе.

На Сакольшчыне павятовая арганізацыя ЛЗС налічвае 1.840 членаў, у тым ліку 354 дзяўчыны. Найбольш гурткоў дзейнічае ў гмінах: Карыцін, Сідра, Саколка, Шудзялава, Бабікі і іншых. У футбол іграе тут 19 каманд, а ў сяткоўку — 68. Даволі моцнымі камандамі па футболу з'яўляюцца каманды з Крынак і Кузніцы (яны выступаюць у Б-класе), Зубкоўшчы, Пуцілак, Шудзялава, Геніюшаў, Стражы, Паганіцы і Снічан. Значныя поспехі ў спорце, асабліва ў сяткоўцы, маюць дзяўчаты з Крукоўшчыны і з Краснага. Дзяўчаты аднак больш абыякава адносяцца да спорту, хаця ў іх будучым працавітым жыцці, як гаспадынь і матак дзяцей, сіла, здароўе і вынослівасць будуць неабходны.

Папулярным сярод сакольскай вясковай моладзі з'яўляецца таксама настольны тэніс, шашкі і шахматы. Сёлета маладыя юнакі і дзяўчаты ўдзельнічалі ў турніры на кубак „Дзённіка Людовага", у матаровым рэйдзе і злёце дзяўчат з трох паветаў, які таксама праходзіў пад знакам спорту. Юнакі набралі ахвоты прыняць удзел у матаровым рэйдзе ў Люблінскае ваяводства і ў Чэхаславакію. Калі ўжо гутарка ідзе пра дасягненні на спартыўнай ніве ў Сакольскім павеце, варта прыгадаць вядомага бегуна Міраслава Белаблоцкага, які вучыцца ў сельскагаспадарчай школе ў Саколцы. Займаецца ён пад кірункам трэнера мгр Я. Залескага. Сёлета ён будзе прымаць удзел у бегах на ваяводскіх спаборніцтвах у Беластоку і на I Алімпіядзе школьнай моладзі ў Афінах (Грэцыя).

Важнымі элементамі дзейнасці паасобных гурткоў ЛЗС з'яўляюцца экскурсіі адных ЛЗС-аўцаў да другіх, рэйды на матацыклах і веласіпедах, гмінныя турніры і г.д.

Павятовыя спартыўныя і маладзёжныя арганізацыі развіваюць сваю дзейнасць у напрамку масавага спорту. Для гэтага неабходны на вёсках спартыўныя пляцоўкі і стадыёны. У будове спартыўных аб'ектаў павінны дапамагчы старэйшыя. На Сакольшчыне ёсць у гэтай галіне паспяховыя вырашэнні. Напрыклад, вёска Кавалі. Бацькам дарастаючых дзяцей і моладзі павінна залежаць на тым, каб маладыя маглі рэалізаваць сваё жаданне развіваць сваё цела і сілу.

(ця)

## ДЗЕ БЛІСНЕ, У ШТО ТРЭСНЕ?

„Гром грыміць — бядзе быць" — казалі калісьці ў вёсках. Гэты год быў багаты бурамі. У другой дэкадзе ліпеня асабліва часта грымела ды бліскала ў аколіцах Гарадка.

Не абышлося і без выпадкаў. 16.VII. 1973 г. у вёсцы Вейкі маланка забіла карову Аляксандра Кардаша.

У той самы дзень ударыла ў кабылу Васіля Сянкевіча з калоніі Сэты каля вёскі Мялешкі. Жарабяці, якое бегала побач, не кранула.

18 ліпеня 1973 г. сірэна завыла ў Гарадку. Замітусіліся пажарнікі. З-за фабрыкі „Каро" ўздымаўся стоўб дыму. Гарэў абарог сена на балоце. Шчасце, што не якая вёска.

Усё гэта прыпамінае, аб чым кожны добры гаспадар і так ведае. Хочучы пазбегнуць вялікіх страт, трэба абавязкова страхаваць маёмасць і хатнюю жывёлу ў страхавой касе — ПЗУ.

**Ларс**

 

## Беларускія кнігі

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, мае ў продажы наступныя кнігі на беларускай мове:

Беларуская этнаграфія і фалькларыстыка, 1972, стар. 388, цана 15 зл. 70 гр.

Бібліяграфічны паказальнік за перыяд 1945—1970 гадоў, складзены выдатным знаўцам гісторыі і этнаграфіі беларускага народу М. Я. Грынблатам. Выданне 5373 артыкуламі аднатоўвае ўсё, што на працягу мінулых 25 год паявілася ў друку з беларускай народнай творчасці і аб ёй на ўсіх мовах свету. Варта адзначыць, што ў паказальніку віднае месца займаюць публікацыі, змешчаныя ў „Ніве", „Зорцы" і кніжных выданнях ГП БГКТ. Рэдактарам паказальніка з'яўляецца вядомы беларускі фалькларыст, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР В. К. Бандарчык.

Яшкін І. Я., Беларускія геаграфічныя назвы, 1971, стар. 256, цана 10 зл. 40 гр.

Праца прадстаўляе сабою слоўнік мясцовых беларускіх геаграфічных назваў, пра якія аўтар ва ўступе заўважае: „Беларускія геаграфічныя назвы вельмі багатыя і разнастайныя — гэта жывыя гістарычныя помнікі. Кожны, нават самы маленькі, здавалася б, нязначны аб'ект на зямлі атрымаў сваё найменне". У слоўніку змешчана каля 5000 назваў з указаннем на канкрэтныя геаграфічныя аб'екты Беларускай ССР і суседніх з ёю земляў. Праца выйшла пад рэдакцыяй доктара філалагічных навук М. В. Бірылы.

Шэўчык Н. І., Практычны матэрыял па беларускай мове ў IV—VI класах, 1973, стар. 256, цана 3 зл. 60 гр.

Вельмі карысны зборнік для настаўнікаў беларускай мовы ў пачатковай школе. Кожнае змешчанае ў ім практыкаванне накіравана на больш трывалае засваенне правіл граматыкі і правапісу, на іх замацаванне і праверку ведаў вучняў.

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем рахунку). Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Сын жыў з бацькам на гаспадарцы і сплаціў грошы сястры і двум братам, якія цяпер пражываюць у горадзе і добра зарабляюць. Прэзідыум павятовай рады народвай на аснове закону аб упарадкаванні сельскай гаспадаркі прызнаў усю гаспадарку сыну, а бацьку прызнаў права да пажыццёвага ўтрымання. Бацька, падбухтораны дачкою, перайшоў да яе і падаў на сына ў суд, каб той плаціў яму 800 зл. на ўтрыманне. Сын мае на ўтрыманні двое дзяцей, а даход гаспадаркі каля 10 тысяч злотых у год. Ці можа бацька патрабаваць поўнага ўтрымання толькі ад аднаго сына, а не ад усіх сваіх дзяцей? Якое значэнне мае ўпісанне прэзідыумам ПРН пажыццёвага ўтрымання ў рашэнні аб наданні зямлі, калі ў сапраўднасці ніякай умовы паміж сынам і бацькам на гэту тэму не было?

АДКАЗ: Выдаючы рашэнне аб прызнанні ўласнасці зямлі, прэзідыум павятовай рады народвай упісвае ў ім права былога ўласніка зямлі да атрымоўвання пажыццёвага ўтрымання ад асобы, якой рашэнне прызнае права ўласнасці — калі існавала нефармальная — г.зн. заключаная не ў форме натарыяльнай — умова. Аднак, калі б нават гэтай умовы не было, а ў рашэнні прэзідыума такі абавязак быў упісаны, калі рашэнне правамоцна — абавязвае бакі і суд гэткім рашэннем звязаны. Сын павінен быў на гэта рашэнне падаць скаргу ў ваяводскую інстанцыю, калі лічыў яе няправільнай.

Таму, калі паміж бацькам і сынам узніклі непаразуменні і яны не могуць жыць згодна ў адной сям'і, бацька можа патрабаваць пералічэння абавязкаў сына на грашовую пенсію. Гэтыя абавязкі — гэта памяшканне, ежа, вопратка, дапамога ў хваробе — на ўзроўні, на якім жывуць іншыя члены сям'і абавязанага.

Суд, засуджваючы пенсію, прымае пад увагу матэрыяльнае і сямейнае становішча абавязанага, і непраўдападобным здаецца тое, што прысудзіць у апісаным выпадку аж 800 зл. Бацьку пры гэтым праслугоўвае права патрабаваць ад іншых дзяцей аліментаў, каб мог пражыць на ўзроўні, адпаведным да становішча, у якім знаходзяцца яго дзеці.

## Фальклор

### Любоўная







*Як я ехаў каля млына, то ты ногі мыла.*
*Ой, чуў жа ж я, дзяўчынанька, што ты гаварыла.*
*Ой, чуў жа ж я, дзяўчынанька, што ты гаварыла.*
*— Ні я гэто гаварыла — гаварылі людзі,*
*Што з нашого коханечка нічого ні будзе.*
*Што з нашого коханечка нічого ні будзе.*
*— Ой, пожэну сівы волы на крутые горы.*
*Ой, распушчу кучэрыкі на чорные брові.*
*Ой, распушчу кучэрыкі на чорные брові.*
*Ніхай мае кучэрыкі вецер повівае —*
*Ніхай мая дзеўчынанька шчэ з рок пагуляе.*
*Ніхай мая дзеўчынанька шчэ з рок пагуляе.*
*Гуляй, гуляй, дзеўчынанька, ты мая будзеш.*
*Ой, чуў жа ж я чэрэз людзі, як ты мене судзіш.*
*Ой, чуў жа ж я чэрэз людзі, як ты мене судзіш.*
*— Як я цебе асудзіла — судзі мене, Божэ!*
*Як я цебе ні любіла — карай мене, Божэ!*
*— Дзяўчынанька, дзяўчынанька, што з табой зрабіці?*
*Та й на кого, дзяўчынанька, цебе ўручыці?*
*Та й на кого, дзяўчынанька, цебе ўручыці?*
*Уручаю, дзяўчынанька, таварышчу свому,*
*А сам еду, ад'езджаю ў далеку дорогу.*
*А сам еду, ад'езджаю ў далеку дорогу.*
*Мінуў рочэк, мінуў другі — хлапец прыезджае,*
*Та й до свое дзяўчынанькі ва двор заезджае.*
*Та й до свое дзяўчынанькі ва двор заезджае.*
*Заезджае на подворак, уходзіт дахаты —*
*Малэ дзіця, малюсенькае рачкуе па хаці.*
*Малэ дзіця, малюсенькае рачкуе па хаці.*
*— Таварышчу, таварышчу, чыя то дзіціна?*
*— Ой, то тэі дзеўчынанькі, што цебе любіла.*
*— Ой, то тэі дзеўчынанькі, што цебе любіла.*
*— Лепей было з каня ўпасці — галоўку пабіці,*
*Чэм на цебе, таварышчу, дзеўчыну ўручыці.*
*Чэм на цебе, таварышчу, дзеўчыну ўручыці.*
*Лепей было з каня ўпасці — на смерць забіціся,*
*Чэм з табою, дзеўчынанька, цяпер жэніціся.*
*Чэм з табою, дзеўчынанька, цяпер жэніціся.*
*— Ой, ні тужы, мой міленькі, ні веліка страта:*
*За рок за два, за поўтора будзе звацi — „Тата!"*
*За рок за два, за поўтора будзе звацi — „Тата!"*
*Ой, ні тужы, мой міленькі, ні веліка туга:*
*За рок за два, за чэтыры будзе нам паслуга.*
*За рок за два, за чэтыры будзе нам паслуга.*

Ад Клаўдзіі Домань, 1912 года нараджэння, вёска Новая Воля Беластоцкага павету, запісаў 22 чэрвеня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.



## Знаёмімся з дзядзькам Гарустовічам

Прайшоў фэстын у Нараўцы. А сёння прадстаўляем яшчэ адзін фрагмент з гэтага фэстына. Вось дзядзька Гарустовіч са Скупава — цікавы ўдзельнік фэстына. Ён выступіў на эстрадзе з фальклорнай рэгіянальнай „Песняй пра люлечку", якую выканаў вельмі добра. Суправаджала Г. Гарустовіча група старэйшых мужчын і адна жанчына, якія стварылі для яго песні т. зв. музычны фон.

Фота **А. Карпюка**

кіх абавязкаў і залежнасцей, захаванне поўнай свабоды — вось рысы героя паэмы. Няма сумненняў, што Ядвігін Ш. — пахваляе такія прынцыпы і такую ідэалогію чалавека.

У паэме Ядвігіна Ш. выступае яўны культ прыроды. Аўтар прыпісвае ёй здольнасць уплываць на чалавека, рабіць яго лепшым і больш высакародным. Ядвігін Ш. адухаўляе прыроду, бачыць у ёй элементы альтруізму, лічыць, што шчаслівым можа быць толькі той чалавек, які ўмее зліцца сваёй душой з „душой" пушчы.

Крытык Ільяшэвіч даказваў, што „Дзед Завала" — гэта вынік уплыву на Ядвігіна Ш. з боку „Пана Тадэуша" А. Міцкевіча. Параўнанне даволі непераканаўчае. Досыць цяжка супастаўляць эпапею Міцкевіча з маленькай паэмкай Ядвігіна Ш. Быць можа, „Дзед Завала" ў нейкай ступені залежаў ад „Шляхціца Завальні" Яна Баршчэўскага. Прынамсі ў загалоўку. Але не толькі. Паэмка Ядвігіна Ш. можа быць названа баладай. Аднак баладай не тыповай, бо не суровай, не змрочнай, але напоўненай лагоднасцю і цяплом. Баладнасць гэтага твора прадстаўляецца ў арганічным адзінстве чалавека і прыроды.

Ядвігін Ш., бадай не лічыў сябе паэтам. Таму ў яго спадчыне вершаваны „Дзед Завала" з'яўляецца выключэннем.

## На пункце скупкі малака ў Навасадах

Пункт скупкі малака ў вёсцы Навасады Гайнаўскага павету знаходзіцца ў прыгожым мураваным будынку. Малако прывозяць сюды сяляне з Навасадаў і навакольных вёсак, як Сарочая Ножка, Скрыплева, Дубінская Ферма і Звадзецке. Найбольш малака прадаюць: Элаіза Янчук з Дубінскай Фермы (штодзень па 30 і больш літраў), Варвара Калеснік і Зофія Кастэцкая — абедзве жыхаркі Навасадаў (у сярэднім па 25 літраў) і Лідзія Максімюк з Навасадаў — па 20 літраў.

Злеўняром на навасадскім пункце скупкі малака працуе Сяргей Баўтрамюк, сумленны і сардэчны чалавек. (ця)



## Людзі добрай работы

## Мікалай Кучко



Селянін Мікалай Кучко з вёскі Махнатае Гайнаўскага павету добра гаспадарыць. На яго зямельных угоддзях найлепш удаюцца такія збожжавыя культуры, як ячмень, пшаніца і жыта. Добра расце таксама бульба. З ячменем і пшаніцай вядзе ён доследныя палеткі. У выніку гэтага Мікалай Кучко прыйшоў да вываду, што найлепш сеяць пшаніцу „малгажата" і садзіць бульбу „флісак". У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве больш 1.000 кілаграмаў пшаніцы і ячменю. Ураджай гэтых збожжавых культур склаў у сярэднім па 30 цэнтнераў з гектара. Мікалай Кучко займаецца таксама гадоўляй свінней і кароў. Свінней сёлета прадаў ён дзяржаве 10 штук. Усе ў першым сорце. Гадуе дзевяць кароў, ад якіх прадае на пункце скупкі больш 12.000 літраў малака ў год. Малако кантрактуе і такім чынам атрымлівае вышэйшую цану за кожны літр. Для кароў Мікалай Кучко сіласуе больш 9 тон зялёных пашаў з канюшыны, буракоў і кукурузы. На сенажацях сее высакаўраджайныя травы.

За выдатныя поспехі ў жывёлагадоўлі Мікалай Кучко ў 1971 годзе быў узнагароджаны Залатым крыжам заслугі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ТЕЛЕФОН

У Дубічах Царкоўных з тэлефонам не ўсё ў парадку. Апарат нумар 12, які належыць да пажарнай каманды, часта псуецца. А гэта адзіны апарат, які падключаецца да Гайнаўкі на ўсю ноч. З Дубіч толькі праз яго можна непасрэдна і хутка спалучыцца з Гайнаўкай, з хуткай дапамогай. Толькі вось гэтая бяда, што часта псуецца. Людзі гавораць, таму, што стары. Значыць Дубічам Царкоўным павінны даць іншы апарат. І з тэлефонам тады будзе ўсё ў парадку.

**П. Дубовіч**

## ПАРНАСІК

Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

### АДКАЗ ДЗЯДЗЬКУ КВАСУ

Напішу я ў „Парнасік"
І забуду пра Вас.
Ды мяне пісаць змусіць
Незнаёмы Дзядзька Квас.

Напісаў ён у „Парнасік",
Я яму дала адказ.
Многа часу не зляцела —
Ізноў піша Дзядзька Квас.

Не чакаю і я доўга,
Хоць ён кажа, што крычу,
А я так, як і заўсёды,
Усміхнуўшыся, пішу.

Напісаў ты, мілы Дзядзька,
Што з Патокі і Бялок
Умяшаліся у „Парнасік"
„Лінагуз" і „Абібок".

Так пісаў даўней ты, помні,
А цяпер хочаш сказаць:
„Лінагузы" й „Абібокі"
Даўно ў гарадах сядзяць.

Паважаны Дзядзька Квас,
Не магу ўявіць сабе,
Скуль Патока і Бялкі
Сталі горадам ў цябе.

Цябе надта бярэ дзіва,
Што пад будкамі п'юць піва?
Яны усё жа зарабляюць
І на піва грошы маюць.

Мне здаецца, што і ты
Не глядзіш на гэта крыва.
Мо таксама ўмееш часам
Пацягнуць куфэлек піва.

А калі так возьмеш піва
І адсунешся на бок,
То ўсе падумаць могуць,
Што ты першы „абібок".

А зямелька ў аблагах —
Надта дзіўны твой абмер —
То ж на ёй гаспадарүе
Найбліжэйшы пэгээр.

А пазногці растуць хутка.
Адрастуць, дык трэба сцяць.
Аднак я і без пазногцяў
Умею сабе раду даць.

Кончылася ўжо вясна,
Наступіла лета,
Я табе дала адказ,
Жду твайго „атвета".

**Ірэна Кузьма**

Аднак вылет назначан на паслязаўтра, навошта вы мяне шукалі? — капітан зноў насцярожыўся.

— Вы павінны вылецець неадкладна, Шварцбрук. Ёсць загад генерала Крэбса.

— Але ж у мяне няма яшчэ амуніцыі...

— Усё ўжо гатова, — уставіў Лібель, — вы атрымаеце амуніцыю ў мяне. А неабходныя дакументы, спадзяюся, ужо ў вас?

— Так, дакументы ў мяне. Акрамя таго, я прывёз пакет на імя падпалкоўніка Мельцара. Але яго я маю права ўручыць толькі асабіста...

— Добра, — сказаў Клец, свецячыся ад задавальнення. — Падпалкоўнік Мельцар, відаць, прыбудзе прама на аэрадром. Цяпер дзве гадзіны. У чатыры мы сустрэнемся на аэрадроме. Оберлейтэнант, вам хопіць часу, каб заехаць па амуніцыю? Едзьце, я сазванюся з Мельцарам.

— У такім выпадку, да хуткай сустрэчы, пан оберштурмбанфюрэр.

Клец праводзіў капітана і Лібеля да машыны. А сам паспяшаўся да тэлефона.

— Я знайшоў Шварцбрука, дарагі Мельцар! Ну, для мяне гэта было не вельмі цяжкай задачай. Але, я думаю, вы не будзеце пярэчыць, я адправіў яго разам з Лібелем проста на аэрадром. На гэты раз вы можаце спакойна дакладваць пану генералу.

**(Працяг будзе)**

## Узрост гадоўлі ў гміне Шудзялова

Гаспадарчы план гміны Шудзялова ў Сакольскім павеце на 1973 год быў накіраваны на павелічэнне ўраджаю і жывёлагадоўлі. Павелічэнне колькасці свінней планавалася на 5,2 прац., а чэрвеньскі спісак паказаў узрост гадоўлі свінней на 25,6 прац.

Быў запланаваны ўзрост гадоўлі быдла на 3,1 прац., а чэрвеньскі спісак паказаў узрост на 5,4 прац.

У канцы 1973 года закончыцца ў гміне камасацыя. Знікнуць тады доўгія і вузкія загоны. У многіх вёсках, як Сукавічы, Шудзялова, Навінка і іншых падзеляцца пасбішчы, што таксама дасць магчымасць яшчэ большай гадоўлі быдла. Гэтак было ў вёсцы Слоя. Пасля камасацыі зямлі і загаспадарання пасбішча, у Слоі наступіў узрост жывёлагадоўлі ў 3 разы. Калі хто на супольным пасбішчы трымаў адну карову, то цяпер, пасля падзелу, трымае 3 каровы, а хто меў дзве, цяпер — 5-6 штук. Хто на палосках гадаваў дзве свінні, то цяпер гадуе 8-10 штук.

**А. С.**

ДЗЕЛА МАСЦЕРА БАЦЦА

## МЕХАНІК

Уладзімір Семянюк з Дубіч Царкоўных Гайнаўскага павету, з'яўляецца адным з лепшых механікаў у сваім асяроддзі. Нават малы рамонт зрабіць у матацыкле, ці матароверы не кожны патрапіць. А Семянюк у гэтым прафесіянал. Ён хутка і спраўна разбярэ машыну на часткі і ў момант знойдзе недахоп. Як гаворыцца, у гэтага чалавека залатыя рукі і прыродны талент да механікі. Аб здольнасцях дубіцкага Семянюка далёка ідзе слава.

Нават у святочны дзень, калі здарыцца, што папсуецца машына ў чалавека недзе далёка на дарозе, Уладзімір Семянюк не адмовіцца, падыйдзе, паможа ў бядзе. Ён мае сваю кузню, у якой ёсць усе неабходныя кавальскія прылады. Бо Семянюк таксама добры каваль. Ён выконвае прыгожыя драцяныя сеткі, вароты. Цяпер сам сабе робіць вадапровад у хату, ванную і паравое ацяпленне.

**М. Панфілюк**

## Сардэчныя тайны

### ДАРАГОЕ „СЭРЦАЙКА"!

Я ўжо старэйшая дзяўчына, мне 39 гадоў. Працую на фабрыцы. У мінулым годзе пазнаёмілася я з Генікам. Ён за мяне малодшы на дзесяць гадоў. Ён мне прызнаўся, што жанаты і мае двое дзяцей. Але з сям'ёй не жыве і мае намер узяць з жонкай развод. Гаварыў, што жонка з дзецьмі жыве на вёсцы, а ён працуе ў горадзе. Часта да мяне прыходзіў, а потым і пасяліўся ў мяне, бо я маю ўласную кватэру і жыву адна. Калі прышоў да мяне жыць, абяцаў, што будзе старацца як найхутчэй узяць развод. Я яму штораз аб гэтым прыпамінала. І ўжо так жывем больш як год, а Генік разводу не мае. А ў апошні час пачаў штораз вырывацца з дому, матывуючы тымі ці іншымі патрэбамі, а вось ужо другі месяц не прыходзіць дахаты зусім. Я даведалася, што жыве ён з нейкай удавой. Нават ведаю дзе. Я ўжо аднойчы намерылася туды пайсці і зрабіць гэтай жанчыне авантуру, але падумала, перш напішу да цябе, „Сэрцайка", каб ты мне параіла, ці гэта будзе добра і як вярнуць Геніка.

**Ліда з С.**

**Ліда!** Калі Генік не захоча з табой жыць, дык ты яго ніякім спосабам да гэтага не прымусіш, а авантурай, якую ты намервалася зрабіць гэтай жанчыне, дык толькі сябе асмешыш. Калі ён пакінуў жонку і дзяцей, тым больш можа кінуць і цябе. З табой жа яго нічога не звязвае. Гэта ты павінна была ўзяць пад увагу, калі толькі з ім пазнаёмілася і даведалася, што мае сям'ю. Відаць, гэта такі чалавек, што на адным месцы доўга не ўтрымаецца, і шкадаваць, а тым больш яшчэ і „ваяваць" за яго няма сэнсу.

**„Сэрцайка"**

## Чын у Тапчыкалах

Вольным днём у ліпені жыхары вёскі Тапчыкалы ў Бельскім павеце пастанавілі сабрацца і давесці да парадку найгоршы кусок сваёй дарогі. Да працы выйшла каля 40 чалавек на чале з солтысам вёскі Мікалаем Марозам. Яны выкапалі роў даўжынёй 40 метраў і залажылі патрэбныя тут пропусты для вады. Работа прайшла спраўна.

Трэба сказаць, што жыхары Тапчыкал — людзі наогул актыўныя і гаспадарныя.

**Наглядальнік**

## 22 ЛІПЕНЯ

З раніцы блішчала сонейка. На вуліцы горада выйшла многа людзей. У поўдзень на бельскіх плянтах пачалі выступаць мастацкія калектывы — квартэт з Плёскаў, хор з Бельска і іншыя. Сабралося многа народу. І, здавалася, кожны быў радасны і думаў толькі аб радасці.

Ды няпраўда, што ў гэты дзень была адна радасць. У гэты вялікі дзень адышоў ад нас добры чалавек — наш прафесар Пётр Анапюк з Бельскага беларускага ліцэя. На пахаванне яго прыйшло многа людзей, асабліва многа было моладзі. Свежую магілу закрылі букеты кветак і вянкі.

Нашага настаўніка мы ніколі не забудзем.

**Ірэна Васілюк**
Бельск Падляшскі

## Жніво ў Крывяцічах

Пасля абмалоту рапаку сяляне вёскі Крывяцічы ад канца ліпеня распачалі ўборку жыта. Ідзе яна цяжкавата, бо ў многіх ураджаі вылеглі ад ветру і дажджу.

Як паведаміў старшыня сельскагаспадарчага гуртка Пятро Будка, сельгасгурток наш поўнасцю ў гэтым годзе забяспечыць уборку збожжа з крывяцікіх палёў. У поле выйшлі ўжо 4 уборныя саставы, а таксама адзін камбайн „Вістуля". Сельгасгурток наш добра падрыхтаваўся да жніў.

**Ваня Кірызюк**
Крывяцічы

### СЯБРОЎСКІ ЗДЫМАК З ТАШКЕНТА

Пасылаю вам фота, якое можна назваць „Беларусы ў Ташкенце". Злева стаіць Сцяпан Іванавіч Ліхадзіеўскі. Ён доктар філалагічных навук, паэт, перакладчык вершаў і прозы, крытык. Яго прозвішча і кароткую біяграфічную даведку знойдзеце ў новай беларускай энцыклапедыі.

**Я. Грыцук**
Ташкент

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

Адказвае Праўленне Гміны ў Дубічах Царкоўных. Гэта адказ на наш непублікаваны ліст, з якім гаспадар звярнуўся да рэдакцыі.

Urząd Gminy w Dubiczach-Cerkiewnych w odpowiedzi na Wasze pismo w sprawie poruszonego problemu oprysków przez mieszkańców naszej gminy informuje.

Zgodnie z Zarządzeniem Nr 77/69 Prezydium WRN w Białymstoku z dnia 23.10.1969 r. w sprawie obowiązku niszczenia niektórych chwastów, obowiązek takowy ciąży na użytkownikach i właścicielach gruntów.

§ 7 w/w zarządzenia mówi o kompleksowym zwalczaniu chwastów w uprawach polowych. W związku z tym na terenie naszej Gminy opryski chwastobójcze były prowadzone kompleksowo. O wejściu na plantację zachwaszczoną ciągnikiem z opryskiwaczem decyduje istruktor rolny po uprzednim przeprowadzeniu lustracji.

O sposobie organizacji oprysków i składania reklamacji wszyscy rolnicy byli powiadomieni na zebraniach wiejskich, zorganizowanych w tym celu. Pożądane było, aby rolnicy osobiście obecni byli przy opryskach i sprawy sporne wyjaśniać na miejscu.

Zainteresowany rolnik może zwrócić się w tej sprawie do Urzędu Gminy, gdzie otrzyma wyjaśnienie i sprawę zbadamy na miejscu. Kierownik Gminnej Służby Rolnej /—/ Mikołaj Tomofiejuk.

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Biały ptak z czarnym znamieniem" (radz.), 28—29. „Początek nowego świata" (rumu.), 30—31.

**Чаромуха**
„Umrzeć z miłości" (franc.), 28—29.

**Кляшчэлі**
„Oskarżeni o zabójstwo" (radz.), 28—29. „Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), 30—31.VIII—2.IX.

**Нарва**
„Małżeństwo" (franc.), „Poślizg" (polski), 29.VIII—2.IX.

**Чыжы**
„Śmierć na zakręcie" (NRD), 29.VIII—2.IX.

**Дубічы Царкоўныя**
„Okruchy życia" (franc.), „Wydra pana Grahama" (angl.), 29.VIII—2.IX.

**Арэшкава**
„Pilot helikoptera" (rumuński), „150 na godzinę" (polski), 1—2.IX.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Ktoś z drzwiami" (franc.), „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (czeski), 29.VIII—2.IX.

**Райск**
„Szczęście Anny" (radz.), „Czarodziej Fablo" (franc.), 29.VIII—2.IX.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Historia jednego myśliwca" (polski), 18—19.

**Міхалова**
„Błędny ognik" (franc.), 28—29. „Harem pana Yoka" (CSRS), 30—31.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Hełm Aleksandra Macedońskiego" (franc.), „Rewizja osobista" (polski), 29.VIII—2.IX.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Włoch w Argentynie" (włoski), 28—29. „Miasto nieujarzmione" (polski), 30—31. „Sacco Vanzetti" (włoski), 1—2.IX.

**Мельнік**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), 28—29. „Wynajęty człowiek" (USA), 30—31.

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911

BZGraf. Nakład 6769 K-1

# Выхаваны чалавек

Паехаў я аднойчы ў горад. Уладкаваў сваю справу, прыходжу на станцыю, бяру білет назад, да вёскі. Бачу — стаяць людзі, аўтобуса чакаюць. Ну, усе чакаюць — і я стаў, чакаю. Пастаялі, пачакалі, аж глядзім — едзе. Пад'ехаў аўтобус, спыніўся. Усе палезлі ў яго — і я палез. Усе селі — і я сеў. Селі і паехалі. Размаўляюць людзі пра жыццё, пра справы гаворку вядуць. Агледзеўся я, не, няма знаёмых, няма з кім слоўцам перакінуцца. „Ну, калі так, думаю, падрамлю крышку". Закрыў вочы, значыцца, і вы думаеце, далі адпачыць чалавеку? Адзін гаворыць, другі смяецца, трэці каля вуха газетай шастае. „Ну, думаю, і людзі, дзе яны толькі выхоўваліся, ніякай увагі да чалавека. Можа я ўжо тыдзень не спаў. Можа мне адпачыць хочацца..."

Едзем далей. Пад'язджаем да аднаго прыпынку, адчыняюцца дзверы, і ў аўтобус намагаецца зайсці старая бабулька. За плячыма ў яе вялізны і, відаць, цяжкі клунак. Толькі бабулька ступіць на ніжнюю прыступку, як клунак цягне яе назад. Я ўважліва агледзеў пасажыраў. „Хто ж, думаю, дапаможа бабулі?". Але ніхто не рухаўся з месца. Я хоць і вельмі малады, але разумею, што такое старасць... Тут, праўда, адзін пажылы чалавек хуценька падняўся з месца, спрытна падхапіў старую пад пахі і ў момант яна апынулася ў аўтобусе. Скінуўшы з плячэй клунак і абцёршы з твары пот, старая так і рассыпалася ў падзяках. А я падумаў: толькі адзін сумленны чалавек і знайшоўся.

Слухайце далей. Хутка я прыкмеціў, што ўсе маладыя людзі сядзяць, і толькі гэтая старая бабулька адзінока стаіць пасярод аўтобуса. У грудзях маіх закіпеў гнеў. Няўжо ж цяпер ніхто не ўступіць бабульцы месца?

Я ўважліва пачаў аглядаць пасажыраў і заўважыў, што два хлопцы, якія толькі што размаўлялі на ўвесь аўтобус, раптам моцна „заснулі". Адзін малады чалавек чагосьці ўтарапіўся ў акно, уважліва там нешта разглядаючы, хоць за акном не было нічога цікавага. Мой сусед унурыўся ў газету. Усе рабілі выгляд, што не заўважаюць старую. Я абурыўся. Ну як можна дапусціць, каб стаяла бабулька, калі наўкола сядзяць маладыя, дужыя хлопцы? Дзе іх сумленне? Я рашуча працягнуў руку да пасажыра — майго аднагодка, які „драмаў" наперадзе мяне, і паляпаў яго па плячы:

— Малады чалавек, як вам не сорамна сядзець, калі перад вамі стаіць ваша маці?

І што вы думаеце? Ён пачырванеў, нібы вараны рак. Хуценька падхапіўся з месца.

— Калі ласка, сядайце. Прабачце, я вас не заўважыў.

— Ён не заўважыў! — гаркнуў я. Паглядзім, як табе ў старасці будзе. І дзе такія людзі выхоўваліся?! Сядайце, калі ласка, — ветліва запрасіў я старую на яго месца.

Але ж і бабулька аказалася добрай цацай. Я ж яе, можна сказаць, пасадзіў, а яна села, павярнулася да таго пасажыра і зноў пасыпаліся яе гарачыя падзякі. А мне — нуль увагі. Вось і зрабі чалавеку добрае...

**Валеры Волк**



### ЗНАЙШЛА ЖАНІХА

— Ой, маманька, нарэшце я знайшла сабе жаніха!

— А калі ты мяне з ім пазнаёміш?

— Вось бачыш, яго „Волга" спынілася. Зараз ён выйдзе з машыны.

— Дачуся, дык ён жа гадоў на дваццаць старэйшы за цябе!

— Ды не, мама, гэта не ён выйшаў, гэта яго малодшы сын!

# НІЎКА



*— Трактар і камплект запасных частак да яго.*

### ХАЙ НЕ ГРАБЕ

Суседка пытае суседку:

— Вы не бачылі, хто гэта маю курку забіў?

— Не чула і не бачыла, хай не грабецца на маім гародзе! — адказала тая.

## МІНІБАЙКІ

### НАСУПЕРАК ЗАКОНАЎ ПРЫРОДЫ

Сабралі зайцы нараду і вынеслі рашэнне: ліквідаваць пасаду ваўка. Ліквідавалі... Але трэба ж яго ўладкаваць на работу. Назначылі лісою... І больш ніколі не склікалі нарадаў.

Мараль — нічога ў прыродзе не знікае бясследна... апрача зайцаў.

### АДКУЛЬ МАРАЛЬ

Быў час, калі ўсе пеўні і куры любілі адно другога без аглядкі і стрымагалоў.

Потым адзін сталы певень прыняў усіх курэй пад сваё крылечка, а маладым пеўнікам строга забараніў нават думаць аб падобных глупствах.

Адсюль — мараль...

— Мараль, — я кажу, — адсюль!

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

### ЗАХАЦЕЎ ВУЧЫЦЦА

— Брыгадзір, пашліце мяне вучыцца...

— А гэта чаму ж, Вася?

— Бо не хочацца працаваць, а да пенсіі далёка...

### ВІНАВАТА ЛЮСТРА

Аднойчы пажылая дама, разглядаючы сябе ў люстры, глыбока ўздыхнула.

— Што з табою? — спытаў яе муж.

— Нічога, любы, — адказала дама. — Я ўздыхаю таму, што бачу, як горшаюць люстры.

## МІНІВЕРШЫ

### ЯГО ТВАР

Гаварыць ён меў ахвоту
Што было не ў навіну,
За абедам — пра работу,
На рабоце — пра гульню.

### ПАРАДА ТАЎСТУНАМ

Фіззарадкі тоўстым мала,
Хоць яна змяншае зло:
Каб зарадка ўсё рашала,
Дык бы тоўстых не было.
Ну, а выйсце, скажуць, дзе ж?
Больш працуй, у меру еш.

**Мікола Вяршынін**

## ГУМАР З

### ДЗЕ КАРОВЫ?

— Што ты ўкраў?
— Вяроўку з рагамі.
— З якімі рагамі?
— З кароўімі.
— А дзе ж тая карова?
— Пацягнулася і яна, падла, за гэтымі рагамі.

### НОВЫЯ ПАТЭНТЫ



Кран для халоднай, цёплай і гарачай вады.



**...Ён стаяў на скрыжаванні дабра і зла: адна дарога вяла дамоў, другая — у гасподу.**

**...Свае месца пад сонцам ён бачыў у засені.**

### ТЭРМІНОВАЯ ЧЫСТКА

Заходзіць мужчына ў хімчыстку. Кладзе пінжак. Прымальніца кажа:

— У нас робяць толькі тэрміновую чыстку. За два дні. Дык трэба даплаціць яшчэ сорак працэнтаў.

Плаціць і пытае:

— Калі ж мне прыйсці за пінжаком?

— Ды не раней як за два тыдні: работы шмат!

### ПАВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Ты, як тая сарока, па вёсцы лётаеш, — дакарае муж жонку. — Ніколі хаты не трымаешся.

— Чаго ўчапіўся, — агрызаецца жонка, — ты ж сам чуў, як лекар казаў, што ў мяне лятучы рэўматызм...



### АПРАЎДАЎСЯ

У парку пад плотам ляжыць п'яны.

Праходзіць побач жанчына і кажа:

— Напіўся, як свіння, і валяецца пад плотам.

П'яніца пачуўшы, падняў галаву і кажа:

— Па-першае, не напіўся, а выпіў, па-другое, не свіння, а інжынер, па-трэцяе, не валяюся, а адпачываю, а па-чацвёртае, не пад плотам, а ў парку.

### ПРЫНЦЫПОВЫ

Навокал смяецца публіка, толькі хтосьці адзін сядзіць з важным выглядам і смех яго не бярэ.

— Вам не падабаецца выступленне клоўна?

— Падабаецца. Але не магу ж я смяяцца, калі ззаду сядзіць мае падначаленыя.

### ЛОГІКА

— Два грамы нікаціну дастаткова для таго, каб забіць каня.

— Божа мой! Навошта ж коням курыць?

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Галіны Дарашкевіч з Меляшкоў Беластоцкага павету змяшчаем песню з рэпертуару Здзіславы Сасніцкай

## NIE MA DROGI DALEKIEJ

Droga daleka,
jakie jutro nas czeka,
gdy się chce
już od dziś
rełniej żyć?..
By się miłość dokonała,
by jak owoc nam dojrzała
właśnie w nas,
właśnie w nas!

Nie ma drogi dalekiej,
gdy prowadzi do ciebie wprost.
Nad przepaścią zawieszę most,
przejdę góry, przejdę rzeki. . .

Nie ma drogi dalekiej,
świat jest mały — jak jedna łza.
Wiele szczęścia na sprzedaż ma,
może okruch nam za darmo da?

Nie ma drogi dalekiej,
gdy u kresu — ktoś czeka nas.
Pali ogień, roztacza blask,
byś nie zbłądził, byś nie zwlekał...

Miłość nam nie kłamie,
co przyniosła — niech zostanie.
Tylko to,
Tylko to!..

### НА РЫНКУ

— Цёця, гэтыя яйкі нясвежыя. Мабыць, там унутры ўжо куранияткі.

— Добра, за куранят можаце не плаціць.

### НЕДАГАДЗІЎ

Аднойчы ішлі па вуліцы два сябры. Раптам адзін з іх так нахіліўся, што другі ледзьве паспеў яго падхапіць. Калі б не падхапіў, то ён, напэўна, упаў бы і разбіў сабе лоб. Але першы разлаваўся:

— Хто цябе прасіў? Ты перашкодзіў мне паздароўкацца з вядомым чалавекам.



*— Адзін добра скача, а другі добра плавае.*




### ДЗЕ КОРАНЬ?



Турысты, якія наведваюць у Парыжы вуліцу Абес, абавязкова спыняюцца ля дрэва, якое вы бачыце на здымку. Па-першае, яно адзінае дрэва на ўсёй вуліцы. Але, скажа чытач, гэта не падстава рабіць з яго турысцкі аб'ект. Правільна, бо галоўнае тут іншае: дрэва высоўваецца з акна другога паверха.

— Тут жыве фанатык пакаёвага садаводства, — тлумачаць гіды. — Яму збрыдлі банальныя герані і кактусы, таму ён вырашыў вырадаваць дрэва. У звычайным гаршчку.

Турысты ахаюць і хапаюцца за фотаапараты. А найбольш недаверлівыя спрабуюць дастаць на першы паверх — пагледзець на карэнні. І вось гэтага менавіта ім не дазваляюць. Тайна ёсць тайна.

### ДЗЕ ПАСТАВІЦЬ МАШЫНУ?

Гэта праблема вельмі хвалюе парыжан. Таму першым выйгрышам у адной з нядаўна праведзеных латарэй было права ставіць машыну ў цэнтры горада ў працягу дзесяці год. Другі выйгрыш быў куды менш цікавы — усяго толькі падарожжа вакол свету!




*Калі ўжо суджана кланяцца, дык кланяйся галаве, а не нагам.*